ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 9 (58)

ВЕРАСЕНЬ 1937 г.

ВЫДАННЕ КНГУ БССР
МЕНСК—1937

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 9 (58)

ВЕРАСЕНЬ 1937 г.



ВЫДАННЕ КНГУ БССР
МЕНСК — 1937

## ПАСТАНОВА № 109/1690

### Цэнтральнага выканаўчага камітэта і Совета народных камісараў Саюза ССР

### Аб змене справаздачнасці сельскіх советаў і раённых выканаўчых камітэтаў

У адпаведнасці з пастановай ЦВК і Соўнаркома Саюза ССР ад 21 сакавіка 1937 года „Аб аслабаненні сельскіх советаў ад абавязкаў па вылічэнню і ўзысканню грашовых падаткаў, страхавых плацяжоў і натуральных паставак" (с. з. СССР 1937 г., ст. 85) Цэнтральны выканаўчы камітэт і Совет народных камісараў Саюза СССР пастанаўляюць:

I. Выключыць з дзейнічаючых пералікаў форм перыядычнай справаздачнасці сельскіх советаў і раённых выканаўчых камітэтаў (пастанова ЦВК і СНК Саюза ССР ад 19 студзеня 1936 г., с. з. СССР 1936 г., № 5, ст. 42) наступныя формы:

### З справаздачнасці сельскіх советаў:

Справаздачу аб мабілізацыі сродкаў;

справаздачу аб налічэнні і паступленні сельгаспадатку і нядоімак па сельгаспадатку і самаабкладанню ва ўсіх катэгорыях гаспадарак;

справаздачу аб налічэнні і паступленні культзбора;

справаздачу аб налічэнні і паступленні плацяжоў і прадастаўленні ільгот па дзяржаўнаму абавязковаму акладному страхаванню;

справаздачу аб выніках налічэння абавязковага акладнога страхавання (папярэдняя);

зводку аб гаспадарках, не выканаўшых у тэрмін сваіх абавязацельстваў па здачы малака, масла і мяса;

зводку аб гаспадарках, не выканаўшых у тэрмін сваіх абавязацельстваў па здачы шэрсці;

зводку аб спагнанні ў бясспрэчным парадку недавыкананай часткі абавязацельстваў (натурай) і грашовых штрафаў.

## З справаздачнасці раённых выканаўчых камітэтаў:

Справаздачу аб выніках налічэння самаабкладання (паштовая); справаздачу аб выніках вылічэння самаабкладання (па тэлеграфу); справаздачу аб прахаджэнні рахункаводамі сельсоветаў курсаў.

II. Увесці наступныя новыя формы перыядычнай справаздачнасці райвыканкомаў:

1) справаздачу аб ходзе выплаты заработнай платы настаўнікам (па тэлеграфу);

2) справаздачу аб выніках учота мацярэй, атрымоўваючых дапамогу па многадзетнасці і аб суме выданай дапамогі;

3) справаздачу аб выплаце дзяржаўнай дапамогі па многадзетнасці (па тэлеграфу);

4) справаздачу аб ітогах абмалота зернавых культур па сартах;

5) справаздачу аб апрабацыі пасеваў бульбы;

6) звесткі аб ходзе праверкі на прадпрыемствах справаздач па плацяжах абагуленай гаспадаркі (па падатку з абарота);

7) для райвыканкомаў: Дагестанскай АССР, Бурат-Мангольскай АССР, Калмыцкай АССР, Башкірскай АССР, Якуцкай АССР, Кара-Калпакскай АССР, Паўночнай вобласці, Омскай вобласці, Іркуцкай вобласці, Чыцінскай вобласці, Краснаярскага края, Ойрацкай аўтаномнай вобласці, Кіргізскай ССР, Казахскай ССР—справаздачу аб гаспадарчым устройстве калгасаў, пераходзячых на аседласць.

Даручыць начальніку Цэнтральнага кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчота зацвердзіць у трохдзённы тэрмін указаныя формы справаздачнасці, іх перыядычнасць, адрасатаў і колькасць паказчыкаў.

III. Абавязаць наркаматы і цэнтральныя ўстановы Саюза ССР прадставіць у Цэнтральнае кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўчота Дзяржплана СССР к 5 кастрычніка г. г. праекты пералікаў і форм справаздачнасці сельсоветаў і райвыканкомаў (па адпаведнай галіне) на 1938 год.

IV. Прапанаваць Цэнтральнаму кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота прадставіць к 10 кастрычніка 1937 года ў

Совет народных камісараў Саюза ССР зводны пералік форм перыядычнай справаздачнасці сельскіх советаў і раённых выканаўчых камітэтаў на 1938 год.

Старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэта СССР М. Калінін.

Старшыня Совета народных камісараў СССР В. Молатаў.

Сакратар Цэнтральнага выканаўчага камітэта СССР А. Горкін.

27 верасня 1937 г.

## ПАСТАНОВА № 2101

### Совета народных камісараў БССР

*23 верасня 1937 года* *гор. Менск*

### Пра арганізацыю курсаў па калгаснаму ўчоту

Совет народных камісараў БССР пастанаўляе:

Абавязаць РВК арганізаваць курсы па перападрыхтоўцы рахункаводаў калгаснага ўчота, згодна дадатка № 1, вылучыўшы на гэтае мерапрыемства суму, з разліку 50 руб на чалавека, за кошт мясцовага бюджэта.

Нам. старшыні Совета народных камісараў БССР А. Ананьеў.

Кіраўнік спраў Совета народных камісараў БССР І. Конікаў.

## ПАСТАНОВА № 2092

### Совета народных камісараў БССР

*21 верасня 1937 г.* *г. Менск*

### Аб адмене і із'яцці картак з'ёмшчыка па ўчоту ў жактах Белжылсаюза

Совет народных камісараў БССР адзначае, што ў картках з'ёмшчыка, якія распаўсюджаны Белжылсаюзам для карыстання ва ўсіх жактах БССР, маюцца паказчыкі, якія не падлягаюць учоту жактамі (персанальны ўчот партыйцаў і комсамольцаў, сярэдні заработак сям'і).

Совет народных камісараў БССР пастанаўляе:

1. Існуючую форму карткі з'ёмшчыка па ўчоту ў жактах Белжылсаюза адмяніць.

2. Абавязаць Белжылсаюз неадкладна із'яць ад усіх жактаў гэтыя карткі з'ёмшчыка.

3. Абавязаць Белжылсаюз у 10-дзённы тэрмін надрукаваць для жактаў новыя карткі з'ёмшчыка, якія распрацаваны і зацверджаны Кіраўніцтвам народна-гаспадарчага ўчота БССР.

Старшыня Совета народных
камісараў БССР А. Кавалёў.

Кіраўнік спраў Совета народных
камісараў БССР І. Конікаў.

## Усім старшыням акрвыканкомаў і райвыканкомаў

За апошні час наглядаюцца выпадкі незаконных патрабаванняў старшынямі РВК і заг. райЗА штодзённай апаратыўнай справаздачы аб ходзе сяўбы азімых і іншых паказчыкаў ад калгасаў і сельсоветаў.

Падобнае ўвядзенне незаконнай штодзённай справаздачнасці па ўсіх галінах сельскай гаспадаркі прама супярэчыць пастанове СНК СССР ад 27 лістапада 1933 г. „Аб адказнасці за дачу няправільных учотных звестак і справаздачных даных, а таксама за парушэнне форм і тэрмінаў падачы ўчотна-справаздачных матэрыялаў".

СНК БССР прапануе ўсім старшыням акрвыканкомаў і райвыканкомаў:

1. Неадкладна із'яць незаконна ўведзеную дадатковую справаздачнасць у тых раёнах, дзе гэта мела месца, і ў далейшым сурова прытрымлівацца ўстаноўленых урадам форм учота і справаздачнасці, а таксама тэрмінаў іх прадстаўлення для кожнай формы.

2. Асоб, вінаватых у парушэнні ўстаноўленага ўрадам парадку прадстаўлення справаздачнасці, прыцягваць да судовай адказнасці.

СНК БССР папярэджвае ўсіх старшынь акрвыканкомаў і райвыканкомаў, што ўсякае парушэнне з іх боку ўстаноўленага ўрадам парадку прадстаўлення існуючых форм учота і справаздачнасці будзе разглядацца як нежаданне з іх боку павесці рашучую барацьбу па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы.

Нам. старшыні СНК БССР А. Ананьеў.

27 верасня 1937 г., № 60.

## Начальнікам КНГУ рэспублік, краёў і абласцей

У дадатак да загада па ЦУНХУ ад 23 верасня г. г. за № 464 растлумачваю наступнае:

Пры назначэнні ўчінспектароў асобы, скончыўшыя тэхнікум Наргасучота, прайшоўшыя практыку і здаўшыя ўстаноўленыя іспыты, аслабаняюцца ад 6-месячнага стажа іспытаў, і ім устанаўліваецца аклад у 215 руб. (з адпаведным павышэннем пасля двухгадовага стажа да 265 руб. і пасля 3-гадовага стажа—да 325 руб.).

Начальнік Цэнтральнага кіраўніцтва Наргасучота
Дзяржплана СССР Верменічаў.

1/IX 1937 г.

## Раённым і ўчастковым інспектарам Наргасучота

Згодна паведамлення ЦУНХУ, уведзеная ў 1936 годзе Наркамземам форма квартальнай справаздачнасці для сельсаветаў і райземаддзелаў аб пашпартызацыі коней і выдаткаванні пашпартных бланкаў падлягае адмене, паколькі яна не зацверджана ні СНК СССР, ні ЦУНХУ.

ЦУНХУ прапанавала НКЗему СССР адмяніць гэтую форму па ўсяму Саюзу.

Раённым і ўчастковым інспектарам Наргасучота прасачыць за адменай паказанай формы ў райземаддзелах і сельсаветах.

Учотная інспекцыя КНГУ БССР.

## Выпіска з загада № 501 па Цэнтральнаму кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота Дзяржплана СССР ад 2 верасня 1937 года.

1. Рашэннем урада на ЦУНХУ Дзяржплана СССР было ўскладзена правядзенне тэрміновага спецыяльнага ўчота заработнай платы работнікаў усіх прадпрыемстваў і устаноў Саюза СССР з прадстаўленнем ураду ітогаў учота 27/VIII г. г.

Работа по спецучоту выканана ў тэрмін, устаноўлены ўрадам.

Аб'яўляю падзяку наступным раённым інспектарам Наргасучота, забяспечыўшым датэрміновае выкананне спецучота і добрую якасць матэрыялаў:

КНГУ Беларускай ССР:

1. Амром—Аршанскі раён,
2. Макеенка—Асвейскі раён,
3. Загальская, інструктар-стат. Камарынск. р-на

П/П начальнік Цэнтральнага кіраўніцтва народнагаспадарчага ўчота Дзяржплана СССР Верменічаў.

## Усім інспектарам Наргасучота

Маюцца выпадкі, калі райінспектары звальняюць без нашага ведама ўчастковых інспектароў, гэтак сама прымаюць на работу новых участковых інспектароў без згоды на гэта КНГУ (напрыклад, Глускі райінспектар т. Ельніцкі, Быхаўскі—т. Старавойтаў).

Такое з'явішча прыводзіць да таго, што мы не ведаем кадраў участковых інспектароў, не можам рэгуляваць пытанне аб зарплаце, а таксама ўлічыць, хто павінен здаць тэхмінімум, які будзе абавязковым для ўсіх уноў прынятых участковых інспектароў і для тых, якія працуюць участковымі інспектарамі, але не былі яшчэ на курсах па перападрыхтоўцы.

Прапаную ні ў якім разе не звальняць участковых інспектароў без дазволу на гэта КНГУ БССР (у акругах—без дазволу начальніка акр. КНГУ з паведамленнем аб гэтым аддзела кадраў КНГУ).

Пры прыёме на работу новага ўчастковага інспектара патрэбна зараз-жа дасылаць у аддзел кадраў усе неабходныя дакументы для зацверджання.

Усім райінспектурам, у якіх працуюць на сёнешні дзень незацверджаныя ўчастковыя інспектары, на працягу 3-х дзён даслаць анкеты і неабходныя дакументы ў аддзел кадраў для зацверджання (у акругах—начальнікам акруговых КНГУ з паведамленнем аддзела кадраў КНГУ БССР).

Ч. в. а. начальніка Кіраўніцтва Наргасучота БССР Абудзееў.

7/X 1937 года.

# ЗАГАД № 777

## па Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 15 верасня 1937 г.*

Участковы інспектар Касцюковіцкага раёна т. Братанаў зусім нядбайна адносіцца да выканання сваіх абавязкаў. Так, у час перапісу жывёлы ён не выязджаў у Царковіцкі сельсовет і не правяраў работу рэгістратараў, у выніку чаго па гэтаму сельсовету няверна было ўлічана пагалоўе свіней па групах.

Пры правядзенні ўчота пасеўных плошчаў т. Братанаў сабатыраваў гэту работу: не дабіўся таго, каб у кожным сельсовеце былі своечасова вылучаны сельупаўнаважаныя па ўчоту пасеву аднаасобнага карыстання, не прыняў своечасова мер для таго, каб плошчы пасеву прымаліся старшынямі калгасаў па абмеру ў натуры, прымірэнчаскі вёў сябе пры выпадках вочкаўціраецельства ў час сяўбы.

Усё гэта адбілася на якасці матэрыяла па ўчоту пасеўных плошчаў.

Устаноўлена, што т. Братанаў прадставіў у райінспектуру ацэнкі аб відах на ўраджай на 15/VIII па калгасу „Пяцігодка", не будучы ў гэтым калгасе. Пры выездзе ў калгас „Барацьба" для праверкі работы па вымярэнню ўраджаю не знайшлі на месцы т. Братанава (ён адседжваўся дома, што ім часта робіцца). Ён не разгарнуў ніякай работы па ліквідацыі страт, і пры накладанні метровак на стэрні аказалася, што страты па пшаніцы складаюць 120 *клг* з *га* і жыта 60 *клг*. Тав. Братанаў не поўнасцю выканаў работы па ўчоту страт на полі і абмалотам у кантраліруемых калгасах. Першая стадыя работ—накладанне па 20 метровак на стэрні 6 культур—праведзена фармальна, нядобрасумленна і позна.

Загадваю: т. Братанаву за нядбайныя адносіны да сваіх абавязкаў абвясціць суровую вымову.

Папярэдзіць т. Братанава, што калі ён не знішчыць недахопаў у сваёй рабоце ў бліжэйшы-ж час, ён будзе зняты з работы за сабатаж.

Ч. в. а. нач. Кіраўніцтва Наргасучота БССР Абудзееў.

План работ раённых інспектур Наргасучота на IV квартал 1937 г.

| Тэма работ | У чым заключаецца работа райінспектара | Тэрмін правядзення работ | Увага |
|---|---|---|---|
| **I. Па сельскай гаспадарцы** | | | |
| 1. Прадстаўленне квартальных справаздач калгасных ферм | Збор справаздач, распрацоўка раённай зводкі і дасылка ў КНГУ | 15 кастрычніка | |
| 2. Форма № 2 абмалоту зернавых у метруемых калгасах | Запаўненне картак у калгасах, праверка і дасылка ў КНГУ | 10 кастрычніка | |
| **II. Па ўчоту працы** | | | |
| 1. Інструктаж работнікаў соўгасаў і МТС па запаўненню картак ф. № 6, 6-а і 6-б | Выклік работнікаў прадпрыемстваў і правядзенне інструктажу | Кастрычнік месяц | |
| 2. Збіранне і кантроль справаздачных картак ф. № 1, 1-а, 4, 6, 6-а і 6-б | Збіранне картак, кантроль і дасылка ў КНГУ | Пасылае ўвесь матэрыял 15 числа кожнага месяца | З прыцягненнем уч. інспектароў |
| 3. Збіранне і кантроль справаздачных картак за III квартал ф. № 32, 74, ф. № 8 | Збіранне картак, кантроль і дасылка ў КНГУ | Пасылае ўвесь матэрыял па спісу к 10/X—37 г. | Таксама |
| 4. Квартальная справаздачнасць па працы НКАсветы ф. № 84, НКАЗдар. ф. № 89 і райЗА ф. № 40 | Праверка своечасовага і правільнага складання зводкі і паведамленне аб выніках аддз. учота працы КНГУ БССР | 15 кастрычніка 1937 г. | |
| 5. Праверка вядзення пярвічнай дакументацыі і правільнасці запаўення справаздачнасці па працы на н-3 прадпрыемствах у месяц | Праверка сумесна з уч. інспектарамі 2-3 падсправаздачных прадпрыемстваў у месяц | 25 числа кожнага м-ца. | Таксама |

| Тэма работ | У чым заключаецца работа райінспектара | Тэрмін правядзення работ | Увага |
|---|---|---|---|
| **III. Па ўчоту культуры і навукі** | | | |
| 1. Кантрольны ўчот пачатковых, няпоўна-сярэдніх і сярэдніх школ | Інструктаж уч. інспектароў, сапастаўленне з данымі ўчота на 1/X—36 г. і складанне раённай зводкі | 1/X—20/X | Праз уч. інспектароў |
| 2. Кантрольны ўчот дзіцячых садоў | Таксама | 1/XI—15/XI | Таксама |
| 3. Кантрол. уч. масавых бібліятэк | Таксама | 1/XI—20/XI | Таксама |
| 4. Кантрол. учот клубных устаноў | Таксама | 1/XI—25/XI | Таксама |
| 5. Справаздачнасць школ на пачатак 1937-1938 г. | Нагляд за своечасовым прадстаўленнем райгорАНА ў НКАсветы ф. А-4, 76-А і 76-б (тэрмін 16/X) | Кастрычнік | |
| 6. Справаздачнасць вячэрніх школ дарослых павышанага тыпа на пачатак 1937-1938 г. | Нагляд за своечасовым прадстаўленнем райгорАНА ў НКАсветы ф. В-2 (тэрмін 15/X) | Таксама | |
| 7. Учот дзяцей, падлягаючых усеагульнаму абавязковаму навучанню | Нагляд за своечасовым прадстаўленнем райгорАНА ў НКАсветы ф. 77 | Таксама | |
| **IV. Аддз. капіт. будаўніцтва** | | | |
| 1. Дынаміка сабекошту будаўніцтва | Збор і кантроль матэрыялаў па дынаміцы і сабекошту будаўніцтва па ўстаноўленаму кругу будаўніцтв. за III кв. па ф. № 23 і 8 | 20/X | |
| 2. Учот жылплошчы, уступіўшай у эксплаатацыю ў III кв. у гарадах і гарадскіх паселішчах | Складанне картак і гарадскіх зводак | 8/X | |

Працяг

| Тэма работ | У чым заключаецца работа райінспектара | Тэрмін правядзення работ | Увага |
|---|---|---|---|
| 3. Учот увода ў эксплаатацыю аб'ектаў капітальнага будаўніцтва за III кв. 1937 г. у гарадах | Складанне зводкі ф. С-С—1 | 10—15/X | |
| 4. Бягучы ўчот капіталаўкладанняў | Нагляд за своечасовым прадстаўленнем арганізацыямі справаздачы аб капіталаўкладаннях па ф. № 13 | 7-га чысла кожнага месяца | |
| V. Па ўчоту совецкага гандля | | | |
| 1. Штомесячны ўчот рэалізацыі сельскагаспадарчых прадуктаў на гарадскіх калгасных рынках | Нагляд, інструктаж і кантроль работы кіраўніцтва рынкаў па гораду і адсылка зводак у КНГУ | Штомесячна | |
| 2. Бягучае абследванне міжраённых кірмашоў і прадсвяточных рынкаў | Непасрэднае правядзенне абследванняў, праверка і адсылка матэрыялаў у КНГУ | Кастрычнік—снежань | |
| 3. Штомесячная рэгістрацыя цэн на гарадскіх калгасных рынках па 46-ці таварах і рэгістрацыя цэн на 5 і 15 чысло па 15-ці таварах | Непасрэднае правядзенне рэгістрацыі і адсылка матэрыялаў у КНГУ | Штомесячна | |
| 4. Штоквартальныя звесткі аб становішчы калгасных рынкаў | Непасрэднае запаўненне бланка, праверка і адсылка ў КНГУ | 7-га кастрычніка | |
| 5. Рэгістрацыя розніяных цэн дзяржгандля на бульбу, гародніну, малочныя тавары і яйкі | Непасрэднае правядзенне рэгістрацыі цэн і адсылка матэрыялаў у КНГУ і ЦУНХУ | Штомесячна 25-га чысла | |
| 6. Квартальны ўчот самадзейных сталовак | Збіранне матэрыялаў, кантроль і адсылка ў КНГУ | 10-га кастрычніка (за III квартал) | |

Працяг

| Тэма работ | У чым заключаецца работа райінспектара | Тэрмін правядзення работ | Увага |
|---|---|---|---|
| VI. Па насельніцтву і ахове здароўя | | | |
| 1. Натуральны рух насельніцтва | Атрыманне ад ЗАГС'а зводак, заноска ў дзенніkі і праверка правільнасці нумарацыі | Штомесячна 10-га чысла | |
| 2. Механічны рух насельніцтва | Атрыманне адрыўных талонаў прапіскі і распрацоўка ф. А | Штомесячна 5-га чысла | |
| VII. Па ўчотнай інспекцыі | | | |
| 1. Праверка становішча ўчота ў калгасах | Арганізацыя праверкі праз уч. інспектароў, інфармацыя РВК аб становішчы ўчота ў калгасах, дасылка актаў праверкі ў КНГУ | Да 20-га кастрычніка | З прыцягненнем уч. інспектароў |
| 2. Пярвічны ўчот у сельсоветах | Правядзенне інструкцыйнай нарады сакратароў сельсоветаў і раздача ім кніг і форм для пярвічнага ўчота на 1938 г. | У снежні месяцы | Таксама |
| 3. Правядзенне РВК курсаў па перападрыхтоўцы рахункаводаў калгасаў згодна пастановы СНК БССР | Прыняць удзел у арганізацыі курсаў і скарыстаць іх для інструктажа рахункаводаў калгасаў па пытаннях ўчота і справаздачнасці ў калгасах | У час правядзення курсаў | |
| VIII. Па ўраджайнасці | | | |
| 1. Тэлеграфнае паведамленне аб масавых абмалотах па становішчу на 1/X 1937 г. | | 5/X і 5/XI | |

Працяг

| Тэма работ | У чым заключаецца работа райінспектара | Тэрмін правядзення работ | Увага |
|---|---|---|---|
| 2. Паштовае пацверджанне тэлеграфнага паведамлення па масавых абмалотах па ф. 5-а, па калгасах і асобна па ўсіх соўгасах раёна. | | 6/X і 6/XI | |
| 3. Прадстаўленне зводкі па раёну па праверцы абмалотаў і ўстанаўленню страт па ф. 4-г з дадаткам па кожнаму соўгасу і калгасу картак праверкі абмалотаў і ўстанаўлення страт участковымі інспектарамі па ф. № 4-а, 4-б і 4-в. | | 10/X і 5/XI | |
| 4. Прадстаўленне зводкі па масавай перааапрацоўцы ільна-валакна па раёну па становішчу на 15/X 1937 г. згодна формы райЗА № 11 спецучота па перапрацоўцы ільна-валакна, а таксама і даных па праверцы кантраліруемых калгасаў па перааапрацоўцы ільна і недаўлічанай ільнопрадукцыі | | 20/X | |
| 5. Прадстаўленне актаў па праверцы ўчота капання бульбы па двух выдзеленых калгасах у пачатку капання | | Не пазней 5/X | |

| Тэма работ | У чым заключаецца работа райінспектара | Тэрмін правядзення работ | Увага |
|---|---|---|---|
| 6. Праверка апаратыўнай справаздачнасці ў калгасах, сельсоветах і райЗА па капанню бульбы па становішчу на 5/X і 20/X і прадстаўленне матэрыяла ў сектар ураджайнасці. | | Не пазней 10/X і 25/X | |
| 7. Праверка ўчота канаплі-валакна на 1/XI і прадстаўленне актаў праверкі | | Не пазней 10/XI | |

## Вынікі праверкі работы Камарынскай райінспектуры Наргасучота

Пры праверцы работы Камарынскай раённай інспектуры Наргасучота выявілася наступнае:

1. Інспектура знаходзіцца ў прыватным доме, у адным пакоі з дораддзелам; гаспадар гэтага дома таксама пражывае там. Пакой невялікі па аб'ёму і не задавальняе патрабаванням дораддзела і інспектуры.

2. Сталы і шкафы, у якіх хаваюцца грашовыя дакументы і матэрыялы, не падлягаючыя агалашэнню, адчынены.

3. У інспектуры 14, 15, 16, 17-га верасня нікога не было.

4. Фінансавыя дакументы знаходзяцца разам у адной папцы з рознай перапіскай НГУ.

5. Кніга асноўных паказчыкаў выканання народна-гаспадарчага плана заведзена, але несвоечасова запаўняюцца раздзелы. Цэлы рад раздзелаў не запаўняецца па некалькі месяцаў.

6. Вопіс матэрыялаў, не падлягаючых агалашэнню, адсутнічае. У гутарцы з старшынёй РВК выявілася, што інспектар ніякіх дакладных запісак і дакладаў аб правадзімай рабоце на паседжанні прэзідыума РВК і бюро РК не прадстаўляе.

7. Соцспаборніцтва як унутры інспектуры, так і з другой інспектурай не вядзецца.

8. План работы адсутнічае, вытворчыя нарады з участковымі інспектарамі і эканамістам не вядуцца.

9. Не ўсе ўчастковыя інспектары вядуць дзеннікі работы.

10. Інспектура НГУ мае значную запазычанасць перад аддзеламі КНГУ.

За дапушчэнне паказаных вышэй недахопаў у рабоце райінспектуры, загадам № 814 па Кіраўніцтву Наргасучота БССР ад 27/IX 1937 г. райінспектару т. Васілеўскаму аб'яўлена суровая вымова з папярэджаннем.

## Соцдагавор

Мы, работнікі інспектуры Наргасучота Камарынскага раёна, *Васілеўскі, Загальская, Шуман, Шпетны, Пугачоў*, абгаварыўшы становішча работы інспектуры, бярэм на сябе наступныя абавязацельствы па рабоце на IV кв. 1937 г.

1. Правесці ўчот кантрольнага абмалота к тэрміну, устаноўленаму КНГУ, і добраякасна.

2. Поўнасцю ахапіць учотам культасветныя ўстановы к указанаму тэрміну і прадставіць КНГУ матэрыял добраякасны.

3. Своечасова, не пазней 3-га чысла, прадстаўляць квартальныя справаздачы калгасаў аб рабоце ферм.

4. Наладзіць у калгасах і сельсоветах учот „на добра" (шляхам практычнага ўказання) з пастаноўкай пытання ўчота на праўленнях калгасаў, прэзідыумах сельсоветаў і РВК.

5. Усім участковым інспектарам, а таксама і работнікам інспектуры ўключыцца ў палітгурткі па вывучэнню бягучай палітыкі і рэгулярна чытаць газеты.

6. Усю работу інспектуры весці строга па плану. Участковым інспектарам на тэрыторыі свайго ўчастка дабіцца разгортвання паміж рахункаводамі калгасаў соцспаборніцтва на лепшую пастаноўку ўчота ў калгасах.

7. Не радзей аднаго разу ў дэкаду ўчастковыя інспектары праводзяць праверку становішча ўчота ў кожным сельсовеце, ставячы пытанне на прэзідыуме аб учоце.

8. Усім работнікам інспектуры стаць селькорамі або рабкорамі раённай газеты, калгаснай газеты і інш.

9. Райінспектуры дабіцца ў найкарацейшы тэрмін палепшання работы, прычым мець паказчыкі не ніжэй як па 2-й катэгорыі.

Вынікі соцспаборніцтва абмяркоўваць кожны месяц на вытворчай нарадзе.

Па ўзятых абавязацельствах выклікаем на соцспаборніцтва Брагінскую райінспектуру Наргасучота.

Арбітрам просім быць Кіраўніцтва Наргасучота БССР.

Райінспектар наргасучота Васілеўскі.

Уч. інспектары { Пугачоў, Шпетны, Шуман.

Эканаміст Загальская.

## Соцдагавор

Мы, участковыя інспектары Наргасучота Камарынскага раёна, *Шуман А.* і *Пугачоў П. П.*, заключылі паміж сабой соцдагавор па выкананню наступных работ на IV квартал 1937 г.

1. Правесці кантрольны абмалот к устаноўленаму тэрміну і добраякасна.

2. Поўнасцю ахапіць учотам культасветныя ўстановы к тэрмінам, устаноўленым інструкцыяй.

3. Своечасова, не пазней 3-га чысла, прадстаўляць квартальныя справаздачы аб рабоце ферм.

4. Наладзіць па сельсоветах і калгасах учот „на добра".

5. Уключыцца ў палітгурткі па вывучэнню бягучай палітыкі і гісторыі КП(б)Б.

6. Усю работу праводзіць строга па плану.

7. Увесці соцспаборніцтва на тэрыторыі свайго ўчастка паміж сакратарамі сельсоветаў і рахункаводамі калгасаў; трымаць цесную сувязь з газетаю „Калгасны сцяг" і цэнтральным друкам, асвятляючы на іх старонках правядзенне тых ці іншых мерапрыемстваў па ўчоту.

Па ўсіх нашых пунктах выклікаем на соцспаборніцтва т. *Шпетнага* (уч. інспектара Наргасучота).

Уч. інспектары { Пугачоў. Шуман.

## Соцдагавор

Мы, работнікі Мазырскай інспектуры народна-гаспадарчага ўчота, на нарадзе, праведзенай 31/VIII—37 г. начальнікам НГУ Мазырскай акругі тав. Флеерам, падвялі вынікі праведзенай намі работы і, улічваючы ўсю палітычна-гаспадарчую важнасць прадстаячых перад намі работ, як біялагічнае вымярэнне і вызначэнне ўраджая бульбы, правільнае вызначэнне страт пры абмалоце і г. д., а таксама ўлічваючы тую адказнасць, якая ўскладзена на нас, работнікаў народна-гаспадарчага ўчота, у правядзенні ўсіх работ, прадстаячых перад намі, і для таго, каб выканаць усе прадстаячыя перад намі работы і сустрэць 20 гадавіну Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі з адзнакай не ніжэй як „на добра", бярэм на сябе наступныя абавязацельствы:

1. Раней чым прыступіць да якой-небудзь работы—праводзіць шырока масава-растлумачальную работу сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў.

2. Усе работы праводзіць добрасумленна і датэрмінова з адзнакай не ніжэй як „добра".

3. Падняць свой палітычны ўзровень шляхам наведвання палітгурткоў па вывучэнню гісторыі ВКП(б).

4. На працягу ўсяго 1937 г. не радзей аднаго разу ў месяц праводзіць калектыўныя заняткі па падвышэнню кваліфікацыі.

5. Правесці „на выдатна“ біялагічнае вымярэнне і вызначэнне ўраджая бульбы на корані ў вызначаных калгасах раёна ў строгай адпаведнасці з указаннямі інструкцыі КНГУ БССР.

6. Своечасова і добраякасна правесці работу па ўчоту страт пры абмалатох.

7. Трымаць цесную сувязь з друкам і ўсе недахопы ў рабоце асвятляць праз мясцовую газету.

Па вышэй пералічаных пунктах выклікаем на соцспаборніцтва райінспектуры Слуцкага раёна.

Арбітарам просім быць КНГУ БССР.

По даручэнню работнікаў Мазырскай інспектуры { Казлоўскі, Гнездзько.

## Соцдагавор

Мы, работнікі Глускай інспектуры Наргасучота, абмеркаваўшы на нарадзе 2-га верасня 1937 года пытанне аб становішчы пярвічнага ўчота ў сельскіх советах Глускага раёна і ўлічваючы ўсю важнасць гэтага пытання, якое забяспечвае правільную пастаноўку ўчота ў сельскіх советах, а таксама ўлічваючы ўсю адказнасць, якая ўскладзена на нас, работнікаў народна-гаспадарчага ўчота ў правядзенні гэтай работы, бярэм на сябе ніжэйнаступныя абавязацельствы:

1. На працягу верасня м-ца ўтварыць паўторную праверку пастаноўкі пярвічнага ўчота ва ўсіх сельсоветах.

2. Дабіцца ў кожным сельскім совеце ліквідацыі ўсіх недахопаў па пытанню пярвічнага ўчота сельсоветаў, звярнуць асаблівую ўвагу на занясенне ў кнігі гаспадарак рабочых і служачых, улічваючы тое, што гэтыя катэгорыі гаспадарак у некаторых сельсоветах улічаны дрэнна.

3. Прапрацаваць індывідуальна з кожным сакратаром сельсовета брашуру „О изменениях в системе первичного учета в сельсоветах Союза ССР“ і весці сістэматычны кантроль і праверку своечасовага і добраякаснага вядзення кніг пярвічнага ўчота сельсоветамі, дабіваючыся праз РВК і прэзідыумы сельсоветаў ліквідацыі ўсіх недахопаў.

4. Улічваючы, што некаторыя сельсоветы, атрымоўваючы справаздачныя матэрыялы ад калгасаў, па цэламу раду с.-гаспадарчых работ абмяжўваюцца адсылкай зводак у раён, не заносячы паказчыкаў у журнал учота выканання сельскагаспадарчых работ, дабіцца ліквідацыі гэтых недахопаў.

5. На аснове метадаў соцспаборніцтва бярэм на сябе абавязацельства пярвічны ўчот сельсоветаў паставіць на высокі ўзровень.

6. Правесці падрыхтоўчую работу з работнікамі сельсоветаў аб увядзенні кніг пярвічнага ўчота на 1938 год.

7. Па вышэй пазазаных пунктах нашага абавязацельства арбітрам просім быць па ацэнцы выканання гэтага дагавора кожным участковым інспектарам па свайму ўчастку— райінспектара наргасучота тав. Ельніцкага.

8. Выклікаем на соцспаборніцтва па вышэй паказаных паказчыках райінспектуру Парыцкага раёна і арбітрам у соцспаборніцтве нашага раёна з Парыцкім просім быць КНГУ БССР.

Удзельнікі нарады:

Райінспектар Наргасучота Ельніцкі.

Эканаміст Глод,

Уч. інспектары: Сыцянко, Марціновіч, Скрупскі, Дарожка.

## Ацэнка работы райінспектур за верасень м-ц 1937 г.

| Назва раёнаў | Катэгорыі | Механічны рух насельн. | Натуральн. рух насельн. | Бюджэты | Цэны калгасн. гандлю | Учот рэалізацыі с/гасп. прад. | Учот працы ў: | | | Віды на ўраджай | Справаздача вузаў, тэхнікумаў і рабфакаў | Выпіска з кнігі асноўн. паказчыкаў | Сярэдні бал. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | Прамысл. | Соўгасы і МТС | Будаўніцтва | | | | |
| Асвейскі | 2 | 5 | 3 | — | 4 | — | 3 | 5 | 5 | 3 | — | 5 | 4,1 |
| Асіпавіцкі | 2 | 4 | 3 | — | 4 | — | 4 | 5 | 4 | 3 | 5 | 0 | 3,5 |
| Бабруйскі | 2 | 5 | 5 | — | 5 | — | 3 | 3 | 3 | 3 | 5 | 5 | 4,1 |
| Багушэўскі | 3 | 5 | 3 | — | 1 | — | 5 | 4 | 5 | 0 | — | 0 | 2,8 |
| Барысаўскі | 2 | 4 | 3 | 4 | 3 | — | 3 | 3 | 2 | 3 | 5 | 5 | 3,5 |
| Бешанковіцкі | 2 | 5 | 5 | — | 4 | — | 4 | 3 | 3 | 5 | — | 0 | 3,6 |
| Брагінскі | 2 | 5 | 5 | 3 | 5 | — | 5 | 4 | 5 | 3 | — | 3 | 4,2 |
| Буда-Кашал. | 2 | 5 | 3 | — | 4 | — | 5 | 5 | — | 3 | — | 0 | 3,5 |
| Быхаўскі | 3 | 4 | 3 | — | 3 | — | 3 | 3 | 3 | 3 | 5 | 0 | 3,0 |
| Бягомльскі | 3 | 5 | 3 | — | 3 | — | 2 | 2 | 2 | 3 | — | 0 | 2,5 |
| Бялыніцкі | 3 | 5 | 3 | — | 4 | — | 2 | 2 | 2 | 3 | — | 5 | 3,2 |
| Бярэзінскі | 3 | 4 | 3 | 3 | 4 | — | 2 | 3 | 2 | 3 | — | 0 | 2,6 |
| Веткаўскі | 2 | 4 | 5 | — | 4 | — | 5 | 4 | 5 | 5 | — | 3 | 4,3 |
| Ветрынскі | 3 | 5 | 3 | — | 5 | — | 2 | 3 | 2 | 0 | — | 0 | 2,5 |
| Віцебск (горад) | 2 | 5 | 5 | 3 | 5 | 5 | 3 | — | 2 | — | — | 0 | 3,5 |
| Віцебскі (раён) | 3 | — | 5 | — | — | — | 3 | 4 | — | 3 | 5 | 0 | 3,3 |
| Гарадоцкі | 3 | 4 | 3 | — | 4 | — | 4 | 4 | — | 3 | 5 | 0 | 3,3 |
| Глускі | 3 | 5 | 3 | — | 3 | — | 3 | 3 | 3 | 0 | — | 5 | 3,1 |
| Гомель (горад) | 2 | 5 | 3 | 4 | 5 | 4 | 2 | — | 2 | — | — | — | 3,5 |
| Гомельскі (раён) | 2 | — | 3 | 4 | — | — | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | 0 | 3,7 |
| Горацкі | 3 | 5 | 3 | 3 | 5 | — | 3 | 3 | 3 | 3 | 5 | 0 | 3,3 |
| Грэскі | 3 | 3 | 3 | 2 | 4 | — | 2 | 4 | 2 | 3 | — | 0 | 2,5 |
| Даманавіцкі | 2 | 3 | 3 | — | 4 | — | 5 | 5 | — | 3 | — | 3 | 3,7 |
| Добрушскі | 2 | 3 | 3 | 3 | 4 | — | 5 | 4 | 5 | 3 | — | 3 | 3,6 |
| Дрыбінскі | 2 | 5 | 5 | — | 3 | — | 3 | 3 | 4 | 3 | — | 3 | 3,6 |
| Дрысенскі | 2 | 5 | 5 | 2 | 4 | — | 2 | 5 | 4 | 3 | — | 3 | 3,6 |
| Дубровенскі | 3 | 4 | 3 | 2 | 4 | — | 2 | 2 | 2 | 5 | 4 | 0 | 2,8 |
| Ельскі | 2 | 5 | 5 | — | 4 | — | 2 | 5 | 4 | 3 | — | 3 | 3,8 |
| Жлобінскі | 3 | 5 | 3 | — | 3 | — | 2 | 2 | 2 | 5 | 5 | 3 | 3,3 |
| Журавіцкі | 4 | 0 | 3 | — | 4 | — | 2 | 3 | 2 | 0 | — | 0 | 1,7 |
| Жыткавіцкі | 3 | 3 | 5 | 2 | 4 | — | 2 | 5 | 2 | 3 | — | 0 | 2,8 |
| Заслаўскі | 2 | 5 | 5 | — | 3 | — | 4 | 4 | 5 | 3 | — | 5 | 4,2 |
| Камарынскі | 3 | 4 | 3 | — | 4 | — | 5 | 3 | 5 | 3 | — | 0 | 3,3 |
| Капаткевіцкі | 3 | 2 | 3 | — | 3 | — | 2 | 2 | 2 | 3 | — | 3 | 2,5 |
| Кармянскі | 3 | 5 | 3 | 3 | 2 | — | 4 | 3 | 2 | 5 | — | 3 | 3,3 |
| Касцюковіцкі | 2 | 5 | 5 | — | 4 | — | 4 | 4 | 4 | 3 | — | 5 | 4,2 |
| Кіраўскі | 2 | 4 | 3 | — | — | — | 5 | 4 | 5 | 5 | — | 0 | 3,7 |
| Клімавіцкі | 3 | 4 | 3 | 3 | 4 | — | 2 | 2 | 2 | 3 | 5 | 0 | 2,8 |
| Клічаўскі | 3 | 2 | 5 | — | 4 | — | 3 | 2 | 3 | 3 | — | 0 | 2,5 |
| Капыльскі | 2 | 5 | 3 | — | 4 | — | 3 | 4 | 2 | 3 | — | 5 | 3,6 |
| Круглянскі | 3 | 4 | 3 | — | 4 | — | 2 | 2 | 2 | 3 | — | 0 | 2,5 |
| Крупскі | 3 | 5 | 5 | — | 5 | — | 2 | 2 | 2 | 3 | — | 3 | 3,3 |
| Крычаўскі | 3 | 4 | 3 | — | 3 | — | 3 | 4 | 4 | 3 | 4 | 0 | 3,1 |
| Лагойскі | 3 | 5 | 3 | — | 2 | — | 2 | 2 | — | 3 | — | 0 | 2,4 |
| Лельчыцкі | 2 | 5 | 5 | — | 4 | — | 5 | 5 | 5 | 3 | — | 3 | 4,3 |
| Лепель (горад) | 3 | 5 | 3 | — | 5 | — | 3 | — | 4 | — | 0 | 0 | 2,8 |
| Лепельскі (раён) | 3 | 5 | 3 | — | — | — | 2 | 5 | 5 | 3 | — | 0 | 3,2 |
| Лёзненскі | 2 | 4 | 5 | — | 5 | — | 5 | 4 | 4 | 3 | 5 | 0 | 3,8 |

## Ацэнка работы райінспектур за верасень м-ц 1937 г. (Працяг)

| Назва раёнаў | Катэгорыі | Механічны рух насельн. | Натуральн. рух насельн. | Бюджэты | Цэны калгасн. гандлю | Учот рэалізацыі с/гасп. прад. | Учот працы ў: Прамысл. | Соўгасы і МТС | Будаўніцтва | Віды на ўраджай | Справаздача вузаў, тэхнікумаў і рабфакаў | Выпіска ў кнігі асноўн. паказчыкаў | Сярэдні бал. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 49. Лоеўскі . . . | 2 | 4 | 3 | — | 4 | — | 5 | 4 | 4 | 5 | — | 0 | 3,6 |
| 50. Любаньскі . . | 2 | 5 | 5 | — | 3 | — | 5 | 4 | 4 | 3 | — | 5 | 4,2 |
| 51. Магілеўскі . . | 2 | 5 | 3 | — | 4 | — | 4 | 4 | 4 | 3 | — | 5 | 4,0 |
| 52. Мазыр (горад) | 2 | 5 | 5 | — | 4 | — | 3 | — | 4 | — | 5 | 5 | 4,4 |
| 53. Мазырскі (раён) | 1 | 5 | 3 | — | — | — | 5 | 5 | 4 | 5 | — | 5 | 4,5 |
| 54. Менск (горад) | 2 | 5 | 5 | — | 5 | 4 | 3 | — | 3 | — | 5 | 0 | 3,7 |
| 55. Менскі (раён) | 3 | 4 | 3 | 0 | — | — | 4 | 4 | — | 3 | 5 | 3 | 3,2 |
| 56. Мехаўскі . . . | 3 | 4 | 3 | — | 3 | — | 2 | 4 | 2 | 3 | — | 0 | 2,6 |
| 57. Мсціслаўскі . . | 2 | 5 | 3 | — | 4 | 4 | 3 | 3 | 2 | 5 | 5 | 5 | 3,9 |
| 58. Нараўлянскі . | 2 | 5 | 5 | — | 5 | — | 2 | 2 | 2 | 3 | — | 3 | 3,3 |
| 59. Аршанскі . . | 2 | 5 | 5 | — | 4 | — | 3 | 3 | 3 | 3 | 5 | 5 | 4,0 |
| 60. Парыцкі . . . | 4 | 5 | 3 | — | 0 | — | 2 | 2 | 2 | 0 | — | 0 | 1,7 |
| 61. Петрыкаўскі . | 2 | 4 | 3 | — | 4 | — | 4 | 2 | 3 | 3 | — | 5 | 3,5 |
| 62. Плешчаніцкі . | 3 | 4 | 3 | — | 4 | — | 2 | 2 | 2 | 0 | — | 0 | 2,1 |
| 63. Полацк (горад) | 1 | 5 | 5 | — | 4 | — | 4 | — | 4 | — | 5 | 5 | 4,5 |
| 64. Полаці (раён) | 1 | 5 | 5 | — | — | — | 5 | 4 | 5 | 5 | — | 3 | 4,5 |
| 65. Прапойскі . . | 3 | 3 | 3 | — | 4 | — | — | 2 | 2 | 3 | — | 0 | 2,4 |
| 66. Пухавіцкі . . | 3 | 5 | 5 | — | 3 | — | 2 | 2 | 2 | 0 | 5 | 3 | 3,0 |
| 67. Рагачоўскі . . | 2 | 5 | 3 | — | 4 | — | 4 | 3 | 3 | 3 | 5 | 5 | 3,8 |
| 68. Расонскі . . . | 2 | 5 | 3 | 4 | 3 | — | 4 | 4 | 4 | 3 | — | 3 | 3,6 |
| 69. Рэчыцкі . . . | 2 | 5 | 5 | 4 | 4 | — | 3 | 3 | 3 | 5 | 5 | 5 | 4,2 |
| 70. Свяцілавіцкі . | 3 | 5 | 3 | — | — | — | 4 | 4 | 2 | 3 | — | 3 | 3,4 |
| 71. Сенненскі . . | 3 | 5 | 5 | — | 2 | — | 4 | 3 | 3 | 3 | 5 | 0 | 3,3 |
| 72. Сіроцінскі . . | 2 | 5 | 5 | — | 4 | — | 4 | 4 | 5 | 3 | — | 0 | 3,7 |
| 73. Слуцк (горад) | 2 | 5 | 5 | — | — | — | 4 | — | 4 | — | 5 | 0 | 3,8 |
| 74. Слуцкі (раён) . | 3 | 5 | 5 | 2 | 2 | — | 2 | 2 | 2 | 3 | — | 5 | 3,1 |
| 75. Смалявіцкі . . | 3 | 4 | 5 | — | 4 | — | 3 | 4 | 3 | 3 | — | 0 | 3,2 |
| 76. Смілавіцкі . . | 4 | 5 | 3 | — | 0 | — | 2 | 2 | 2 | 3 | — | 0 | 2,1 |
| 77. Старадарожскі | 2 | 5 | 5 | — | 4 | — | 4 | 4 | 4 | 3 | — | 0 | 3,6 |
| 78. Старобінскі . . | 3 | 4 | 3 | — | 0 | — | 5 | 5 | 4 | 3 | — | 0 | 3,0 |
| 79. Суражскі . . | 3 | 5 | 3 | 2 | 3 | — | 4 | 4 | 4 | 3 | — | 3 | 3,4 |
| 80. Талачынскі . | 2 | 4 | 5 | — | 4 | — | 4 | 3 | 4 | 3 | — | 3 | 3,7 |
| 81. Тураўскі . . . | 1 | 5 | 5 | — | 4 | — | 5 | 5 | — | 5 | — | 5 | 4,8 |
| 82. Уваравіцкі . . | 3 | 5 | 3 | — | 4 | — | 3 | 3 | 3 | 3 | — | 3 | 3,3 |
| 83. Уздзенскі . . | 2 | 5 | 3 | — | 4 | — | 4 | 4 | 5 | 3 | — | 3 | 3,8 |
| 84. Ушацкі . . . | 2 | 5 | 3 | — | 3 | — | 4 | 4 | 4 | 3 | — | 3 | 3,6 |
| 85. Халопеніцкі . | 2 | 3 | 3 | — | 4 | — | 5 | 5 | — | 3 | — | 3 | 3,7 |
| 86. Хоцімскі . . . | 2 | 5 | 3 | — | 3 | — | 4 | 4 | 5 | 5 | — | 3 | 4,0 |
| 87. Хойніцкі . . . | 3 | 4 | 5 | — | 4 | — | 3 | 3 | 2 | 3 | — | 0 | 3,0 |
| 88. Церахоўскі . | 4 | 0 | 3 | — | 3 | — | 2 | 3 | — | 3 | — | 0 | 2,0 |
| 89. Чаускі . . . . | 1 | 5 | 5 | — | 4 | — | 5 | 4 | 5 | 5 | 5 | 3 | 4,5 |
| 90. Чачэрскі . . . | 2 | 5 | 3 | — | 3 | — | 4 | 2 | — | 3 | 5 | 3 | 3,5 |
| 91. Чашніцкі . . . | 2 | 5 | 5 | 2 | 4 | — | 4 | 4 | 4 | 3 | — | 3 | 3,7 |
| 92. Чырвонапольскі | 3 | 5 | 5 | — | 4 | — | 2 | 2 | 2 | 3 | — | 0 | 2,8 |
| 93. Чырвонаслабод. | 3 | 5 | 5 | — | 3 | — | 2 | 3 | — | 3 | — | 3 | 3,4 |
| 94. Чэрвеньскі . . | 3 | 5 | 3 | — | 5 | — | 3 | 2 | 2 | 3 | 5 | 0 | 3,1 |
| 95. Чэрыкаўскі . | 2 | 4 | 3 | — | 5 | — | 4 | 3 | 3 | 3 | — | 5 | 3,7 |
| 96. Шклоўскі . . | 2 | 5 | 5 | — | 4 | — | 2 | 2 | 2 | 3 | 5 | 5 | 3,6 |

